Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem.

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | № 11 | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: |
|---|---|---|
| **ВІЛЬНЯ**, Віленская вул., № 12, кв. 6 | 1-га ЧЭРВЕНЯ. | на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ |
| «МАЛАНКА» | 1926 г. | За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |

# Адно з нашых балючых жаданьняў.

Рыс. Ю. Ш.




Падняўся ў гору сьцяг вясёла,
На ім магутны, вольны кліч:
„Няхай жыве наша школа!
„Няхай гарыць асьветы зьніч!“

Мы верым — ўзыйдзе ясна сонца,
Асьвеціць родны наш загон,
Засьвеціць ў хатку праз ваконца...
Бо ўжо Грабскі — толькі сон...




# Ух-я! Ух-я!

Былі ў Польшчы тры паны, —
Ух-я! Ух-я!
Тоўстапузыя яны:
Ух-я! Ух-я!
Грабскі, Кернік і Вітос...
Ух-я! Ух-я!
Чорт аднак і іх панёс!
Ух-я! Ух-я!
Асьветай Грабскі кіраваў:
Ух-я! Ух-я!
Усе школы закрываў.
Ух-я! Ух-я!
Казаў Кернік зямлю дам:
Ух-я! Ух-я!
Асаднікам, а... ня нам.
Ух-я! Ух-я!
Вітас — стары верабей,
Ух-я! Ух-я!
Казаў хлопцы „не рабей!"
Ух-я! Ух-я!
Хлеба дам і цёплы кут...
Ух-я! Ух-я!
За рашоткай, а... ня тут.
Ух-я! Ух-я!
Ужо ад іх няма ні знаку, —
Ух-я! Ух-я!
Далі мешалкай... па фраку!
Ух-я! Ух-я!
Мо' цяпер будзе іначай, —
Ух-я! Ух-я!
Пажывем, — тагды пабачым!
Ух-я! Ух-я!

**Я. М.**

# „Рэнумэрацыя".

Дырэктар дзяржаўнага сьпіртавога манаполю Падкаморскі адтрымаў апрача пэнсіі яшчэ і *„рэнумэрацыю"* (награду) лікам 28.899 злотых, а дырэктар дзярж. табачнага монополю адтрымаў 23.785 зл., а памочнікі іх таксама адтрымлівалі гэткія-ж *„рэнумэрацыі"* ў суме ад 15.796 да 7—8,000 злот.

(З газэт).

Голь-бяда гуляе ў краі,
Пролетары ледзьве дыша,
Дырэктораў чорна зграя
„Рэнумэраткі" сабе піша.

Да людзкой бяды-нядолі
Сэрца іх, як камень, глуха;
Ім ніколі не даволі, —
Ненасытна іхна бруха!

*Ошчэндзаюць, рэдукуюць,*
Каб напхаць як мех скарбовы
І падаткі ўсьцяж шыкуюць
Нават з сьвінкі і з каровы.

Мрэць бяз працы безработны,
Высах ён: скура ды косьці, —
Цяжкі лёс яго гаротны,
Бо у краі *ошчэндносьці*!

---

Не даюць нам роднай школы:
— *Нéма сьродкув, „ошчэндносьці"*,—
Наш вучыцель босы, голы
Вые з голаду і злосьці.

---

Толькі панам дырэкторам
Ня прыходзіць ў голаў штосьці,
Што ганебны грэх і сорам
Браць людзкія *ошчэндносьці*.

**Янка Маланка.**



# Каб крыху раней.

Сухотмі змучаны сусім,
На ложку хворы муж ляжаў.
Апошні дзень ўжо Божы сьвет
Перад сабой ён аглядаў.

А пры пасьцелі маладая
Сядзела сумная жана,
Сьлязамі бедна залівалась,
Ўсё горка плакала яна.

— Ня плач, жана мая! Нявартa
Сьлязьмі здароўе забіваць:
Мне ўсё адно — сягоньня заўтра,
А сьмерці ўсё-ж не мінаваць...

Так пацяшаў сваю кабету
Жывы нябошчык у бядзе:
— Паслухай лепей просьбу гэту,
Якую маю да цябе.

Як я пампу, ты, пахаваўшы,
Гадкоў са тройчы пагадзі,
А там, жалобу чорну зьняўшы,
Ты з Богам замуж выхадзі.

За Хведара Дразда: багаты
І нестары і ціх, што сон,
Ня п'ець, пільнуець толькі хаты
Дый сябра мой найпершы ён.

Ня скрыўдзіць ён цябе; па-
помніш,
Што будзеш жыць з ім, як ў раю...
Дык пабажыся мне, што споўніш
Апошню просьбу ты маю!

Тут жонка горш сьлязьмі запала:
— Чаму-ж раней ты не казаў?
Яго даўно я пакахала,
Ён толькі сьмерці твае ждаў.

**Янка Башкір.**

# Воўк у авечай скуры.

*Пасол вызваленец* агітуе на кірмашы ў беларускай вёсцы: „Грамадзяне! Ня слухайце здраднікаў працоўных, якія ідуць на павадку паноў-капіталістаў, дакляруюць вам залатыя горы, зямлю, асьвету, а як дарваліся да ўлады, дык зямлю аддалі асаднікам, а школы пазачынялі. Ведаеце, сяляне, хто гэта?“

*Сяляне-беларусы*: Але ведаем, гэта — вызваленцы.

*Пасол-вызваленец:* Не, гэта — пястоўцы!

*Сяляне-беларусы:* Усё гэта чэрці з аднаго балота, бо ў нас нават прыказка ёсьць:

**„Вызваленец з „Пястам“ вельмі
дружаць,
„Сялян крыўдзяць, паном слу-
жаць!“**

*Я. М.*

# Дэмон на „Крэсах“

Рыс. *Ю. М.*




„Я той, каго ніхто ня любіць
І ўсё жывучае кляне“...

*М. Ю. Лермантаў.*

Замест сеяць ў нас асьвету, —
Жываедзку меў ты мэту.

Панаваў ты болей году,
У нас сеючы нязгоду.

Усё-ж нас не пакалечыў...
Сам дастаў кіём па нечым.

(„Маланка“).

# „Баданьне“.

Кажуць людзі, што як бык сярдзіты разьюшаны, дык няма тагды страшнейшага за яго зьвера...

— Ой, браткі, ёсьць куды страшнейшы!

— Хто-ж такі?

— Камэндант пастарунку.

— ?... ?... ?..

— Аднаго разу я хацеў злавіць разьюшанага быка, а ён збадаў мяне рагамі, дык я праляжаў хворы ў хаце два тыдні, а пасьля мяне „збадаў“ камэндант на пастарунку, ды праляжаў ужо два месяцы... у шпіталі, ды і цяпер чуць дыхаю.

**К. Сьвет...**



# Народны гумар.

На закладзінах царквы майстар прыпушчае бэльку:

— Гггак... Гггак...

Прысутны на закладзінах поп падхапляе:

— „Няхай будзе так: што дзень — то мярцьвец, што нядзеля — то вянец (шлюб)!“

Майстар, робячы далей сваё, адказвае:

— „Гггак... Гггак... Няхай будзе так: што год — то поп, як ня ўмер, дык уцек!“

* * *

Едуць з кірмашу мужык з жонкаю.

— Сымон! Ці праўда — кум казаў, што ў цябе на ранку грошы ўкралі? Мужык, злы, адказвае:

— Ўкралі!

— А каб цябе спрагло, разяўня! Ў мяне, нябось, круцілі-муцілі, муцілі-круцілі, ледзь пад вечар дасталі, — адказала жонка, якую ашуканцы ашукалі.

Падслухаў *Касач.*

# Людзі жывуць і на месяцы.

Ідуць два суседы, а на небе сьвеціць поўны месяц, дык адзін кажа другому:

— Кажуць, што і на месяцы жывуць людзі.

— Але, і я чуў, толькі я ім ня веру.

— А вось я чытаў, быццам на месяцы больш людзей, як нават на зямлі.

— Махлюеш, быць гэтага ня можа! Цяпер, як поўня, то можа, але што-ж тады з імі будзе, як настане маладзік, — тады месяц зробіцца, як малы ражок; дык дзе ж тыя людзі там падзенуцца.

*Г. Л.*

### У ФОТОГРАФА.

— Паночку, зрабеце патрэт майго сына.

— Дык прывядзеце яго сюды.

— Дзе ж там! Ён у Пазнані ў войску. Але ён такі маленькі, рыжанькі і на носе шышка.

### РОЗЬНІЦА.

— Якая розьніца паміж мужам з жонкаю і гарэхамі?

— Гарэхі грызуцца ў сьвята, а жонка з мужам грызуцца штодня.

*М. В.*

# Што Рыгор на сьвеце відзеў?

Нядужы, слабы і хворы
Быў стары лясьнік Рыгоры.
Зямлі ўласнай ён ня меў,
Па чужых кутох сядзеў; —
Многа бедаў за свой век
Нацярпеўся чалавек,
Бо надзея яго, — дзеці,
Разышліcь па белым сьвеце.
І на старасьць аднаму,
Бядаваць прышлось яму.
— „Прападзі бяда і гора!“ —
Так сказаў стары Рыгоры;
„Ў сьвет далёкі я пайду,
„Можа шчасьце дзе знайду,
„Можа жыці лепей будзе,
„Мо' жывуць інача́й людзі,
„Мо' ня стогнуць, як у нас.
„Марш ў дарогу ў добры час!

Вось прайшоў ён шмат дарогі,
Ледзьве цягне стары ногі
І ў мястэчку ўжо ля рынку,
Ён прысеў для супачынку.
Аглянуўшыся наўкола,
Ён заходзіць да касьцёла,
Бачыць ксёндз навуку кажа;
— „Дай паслухаю і я-жа!“



Дзіва — дзіўна для Рыгора:
— „Пачужому ксёндз гавора!“
А народ спусьціў галовы,
Бо ня знае тае мовы.
Выйшаў наш Рыгор за дзьверы,
Быў сярдзіты ён бяз меры,
Бо любіў ён слова родна,
З ім жыцьцё свае галодна
Ён правеў, узгадаваўся,
Нізашто не расставаўся.
За родну мову, як за маці,
Ён жыцьцё гатоў аддаці!

Ідзець далей. Глядзіць — школа.
Дзеці бегаюць наўкола.
Вось бліжэй Рыгор ідзе,
Глядзіць: дзеці ў грамадзе
Пяюць песьню нейку хорам.




Аж узяў Рыгора сорам,
Злосьць нямая сэрца мучыць,
Бо дзяцей вучыцель вучыць
Там пяяць чужыя песьні;
Дзеці плачуць,— хоць ты трэсьні,
Пяяць мусяць, хоць ня хочуць,
Сьлёзы іхны вочы мочаць,
А вучыцель той злуецца,
Нізка хіліцца і пнецца,
Вуча іх: „Nie rzucim ziemi“...
І Рыгор ніяк няўцеме,
Чаму наша родна слова,
Наймілейша для нас мова,—
Чужанцамі ганьбавана,
Высьмявана, выганяна?..

Плюнуў наш Рыгор са злосьці,
Нудна стала яму штосьці.
Ідзець далей цераз поле,
Аддыхне мо' тут на волі.
Ў полі радасна і ціха,
Аж глядзіць ён: што за ліха?
Хто гарэць там за кулямі
І са стрэльбай за плячамі?..



Зямелька—маці, родна глеба! —
На што-ж табе зброі трэба?!..
Скуль узяўся пан вось гэты?
Мо' зваліўся дзесь з плянэты
Такі шчасьлівы і удалы, —
Што зямлі кусок ня малы
Яму тут, ля нас дастаўся.
Хто з сялян не дзіваваўся?..
Той кусок, што мы вякамі,
Гаралі ўласнымі рукамі,
Палівалі сьлязьмі, потам...
Эх, ты лёс, наш лёс, пад плотам!

Доўга сумна Рыгор плёўся,
З злымі думкамі бароўся.
Па дарозе шмат што відзеў, —
Мусіць Бог людзей абідзеў,
Чаму ўсюды стогн і гора,
Людзкіх сьлёзаў поўна мора?!
Праца цяжкая на глебе
Ўсё на цябе, наш чорны хлебе!



Што-ж за тое людзі маюць?
Жывуць радасьцяў ня знаюць;
Цэлы век усё клапоты —
Не адпачнеш ад тэй работы
На сваім загоне вузкім,
Родным полі беларускім.

Тагды толькі адпачыне,
Як на сьвеце ўсе пакіне.
Крыж сасновы пры узгорку —
Твой мядаль за працу горку!

Ўсюды сумныя абразы:
Не спаткаў Рыгор ніразу
Нідзе людзкога здаваленьня.
Як праклён на пакаленьне,
Вісіць над краем бяда-гора.
(Аж плач узяў майго Рыгора).
Сеў адпачыці пры бярозе,
Глядзіць: пляцецца па дарозе
Сялянскі конь: скура і косьці,
Сядзіць сялянін сумны штосьці,
Каня паціху паганяе.



На грошы хутка прамяняе
На кірмашы апошні статак,
Каб заплаціць пасьля падатак.
І спусьціўшы нізка голаў,
Ледзьве Рыгор ісьці здолаў,
Але йшоў далей дарогай
З сумам ў сэрцы і трывогай.

Доўга ён ішоў, ці мала,
Ноч ў дарозе насьцігала,
Трэба-ж дзе заначаваці, —
Досыць будзе мандраваці.
Кішкі марша яму граюць.
Вось аганькі ў далі міргаюць,
З-за лесу месяц выплывае.
Якаясь вёска не малая
Разьляглась каля дарогі, —
Самі цягнуць туды ногі.
Вось зайшоў Рыгор да хаты,
Селянін хоць не багаты,
Але нек жыве ў дастатку:
Хата яго у парадку,
На стале газэты родны,
Дзеці чысты й негалодны,
На сьценцы карта Беларусі, —




Селянін вось гэты мусі,
Ёсьць праўдзівым беларусам,
Бо лагодна ня з прымусам
Дзетак вучыць ён паволі,

Як любіць свой край і поле,
Мову родну, вёску, хатку,
Любіць бацьку, любіць матку,
Каб не зракліся свайго дзеці,
За ніякі скарб у сьвеце.

---

Радасьць нейкая, аж дзіва!
(Аддыхнуў Рыгор шчасьліва)
Радасьць ясная на твары, —
Цешаць яго думкі-мары.
Радасьць тая не загіне:
— *Беларусь жыве, ня згіне*!

**Янка Маланка.**

**Крапіва.**

## Самагоначка.

(*П'яная гутарка*).

Як цябе калі я ўбачу,
Самагоначка мая,
Дык чуць з радасьці ня плачу...
Дай-жа цмокну цябе я.
Эх! прыемна ты сабою,
Мне ўжо вельмі-ж па нутру, —

Разлучуся я з табою,
Хіба толькі як памру.
Ад падаткаў ўсю астачу
Прынясу, аддам табе...
Што? ня еўшы дзеці плачуць?
Ну дык што-ж—няхай сабе!

Як паддам сабе ахвоты,
Дык я ўсё аддаць гатоў —
Шапку, вопратку і боты...
Дай-жа цмокнемся мы зноў.
Твая матка, як бывала,
За Міколін яшчэ час,
Без апаскі ўсіх прымала —

Ты-ж ня гэткая у нас,
Але, здэцца, і з табою
Можна справу распачаць —
Я вячэрняю парою
Цябе буду сустрачаць.
Што сьмяяцца будуць людзі?
Нам на гэта напляваць!

А мо' жонка грызьці будзе?
Дык патрапім і суняць:
Як адботажу вяроўкай,
Ўзяўшы голаву між ног, —
Зразу стане мягчэй шоўку...
Я-ж, як злосны—ня дай Бог.
Ня пужайся-ж, дай мне губкі —

Пацалую яшчэ раз:
Ўспамянём-жа сёньня, любка,
Мы былы з табою час!
Што баішся, можа, ўлады?
Могуць, думаеш, накрыць?
Дык яны-ж і самі-б рады,
Каб з табой пагаварыць.

## На мароканскім фронце

Рыс. *„Зиз"*.



**Францускія афіцэры**: З кожнай бомбай, з кожнай куляй нясём гэтым дзікуном (рыфэнам) нашу эўропэйскую культуру.

Няхай бачыць сьвет цэлы, што мы праўдзівыя пабеднікі з вялікай сьвятовай вайны.

(„Маланка").

## Хто п'яніца.

*Жонка*:

Ах ты, п'яніца, абрыда —
Мусіць зноў хадзіў да жыда?
Зноў смактаў пракляту гару;
Бачыш, як зьмяніўся з твару.
Што-ж ты думаеш сабе?
Спаліць некалі цябе!
Ах, лайдак, ты, табе жарты,
Што субота, то дзьве кварты...

*Мужык*:

— Не, дальбо, не давялося
Ўсяе выпіць... засталося!

*Жонка*:

— Ну, дык дай сюды, саколік,
Я пастаўлю вось у столік.

*Мужык*:

На пастаў... Гэй! стой, Мар'яна
Звар'яцела ты ці п'яна?
Не лакчы, так, крый це' Божа,
Гэта-ж водка — спаліць можа!

*Жонка*:

Не, я крыху, галубок —
Калі-ж надта коле ў бок.

**Міхась Васілёк.**

## З цыклю „Нашы дзеткі"

Хоць малыя,
але здольныя.

I. **Развважлівы.**

Сынок пытае сваю матку:
— Скажы, матулька, для чаго,
Як што рабіць, дык усё татку
І ў лес і ў поле ўсё яго
Ты на работу выпраўляеш,
А ты—са мной толькі гуляеш?
—„Таму, сынок, што я кабета,
А ён—мужчына і мой муж;
Рабіць — ня маю сіл на гэта,
А тата крэпак твой і дуж.
Ў яго і рукі не такія,
З маімі грудзі не зраўняць...
— Ах вось прычыны тут якія!—
Пачаў сынок у розум браць: —
Але ня ўцямлю ані трошка
Чаму ўсё тату працаваць?
У таты грудзі вун, што дошка,
А ў мамы?.. (З чым-бы іх зраўняць?).
Дый рукі ў таты, што лапата,
Куды спрытнейшы, мама, маеш:
Пакуль разок зачэрпнец тата,
Дык лыжак пяць ты ўжо сьсярбаеш!.."

II. **Цікавы.**

— Скажы мне, мама, скуль на сьвеце
Бяруцца гэтыя вось дзеці?
Вось і ў нас дагэтуль трое:
Тата, я, ды ты была,
Цяпер чацьвертае малое
Адкуль ты, мама, узяла?
— „То бач, сынок, такі падатак
На бусла Бог даўно наклаў:
Насіць усім людзям дзіцятак,
Калі б хто мець іх пажадаў.
Так буслу Бог ад'значыў лёс...
І нам ён Верачку прынёс".—
— Вось як!.. Але цікава досіць,
А буслу хто дзяцей прыносіць?
Тут маці цесна, нет дзе дзецца
(І як малому расказаць!)
— А буслу?.. буслу? ён нясецца...
Ідзі, сынок, на двор гуляць!
Скажы мне, мама! — сынок просіць, —
Таго ня ўцяміць розум мой:
То-ж бусел дзетак летам носіць,
А скуль узяўся ў нас зімой?!..

**Янка Башкір.**

## ЗАГАДКІ.

1) Узяць фунт яды, фунт вады і фунт солі, зварыць усё разам, а як будзеш есьці дык яшчэ будзеш падсольваць?

2) Хто два разы радзіўся, ніразу ня хрысьціўся і ў Эвангэлію папаў?

3) Хто радзіўся, жыў, не памёр і ня жыве?

**Разгадкі будуць паданы ў наступным нумары „Маланкі".**

**А. Ш.**

# Ужо годзе...

(*Насьледавана з украінскага*).

Не, я бязумоўна павінен запротэставаць;

— Проці ўвядзеньня палітыкі да школы!

— Проціў слабое рукі датычна ўсялякіх нацыянальных меншасьцяў!

І проціў хілкай палітыкі нашай школьнай кураторыі!

Протэстую!

Гэта дзіка! Гэта нячутна! гэта ўдарае ў цэласьць фундамэнтаў нашай дзяржавы — вось гэта лібэральная, як ніякая ў сьвеце, толерантная сыстэма.

Нацыянальныя меншасьці гуляюць, дывэрсію на ўсялякія бакі прыдумваюць, а Варшава хоць-бы чырк...

А галоўна вось гэтыя Беларусы нячутныя штукі выкідваюць. Дзяцей сваіх на дывэрсантаў выхоўваюць, крэсовую традыцыю руйнуюць. Польшча для іх проста так, як-бы і не істнавала.

Пане Куратар, прашу паслухаць:

Ёсьць каля Слоніма такая сабе галаварэзаўская вёска, — Камары называецца.

Адзіным дабыткам эўропэйскай культуры ў гэтай вёсцы ёсьць утраквістычная (двуязычная) школа. Утраквістычная яна ў двох напрамках.

Па перша: Вучыцелька там — полька, дзеці — беларускія.

Па другое: Усё выкладаецца ў тэй школе папольску, а пабеларуску вышываецца.

А як строга загадаў трымаюцца!.. А ну папрабуй папольску вышываць... Ніяк не дазволяць!

— Ня можна! — кажа інспэктар — закон *ензыковы* не дазваляе... Констытуцыя-ж!

Так і бясьсільна рукамі разводзіш, над *ензыковым* законам дзівішся, пабеларуску вышыванкі штабнуеш...

Вось-жа да гэтай самай школы прыехаў быў раз дастойнік з Кураторыі. Ажно з самай сталіцы ваяводзтва.

Да клясы ўходзіць, гымн польскі з дзяцьмі чэсьць чэсьцяй прапяяў, па галоўках гладзе, гісторыю Польшчы пытае:

— Ці ведаеце, дзеці, хто гэта быў „*круль хлопкув*"?..

У клясе ціха як... няйначай дубцом хто перасьцябаў.

— Ну?

— Я ведаю! — выскаквае дзесяцьгадовы хлопчык.

— *Сьлічне, но мув дзецко.*

— Брыль!

— *Глупі естэсь, хамска мордо! „Круль хлопкув" то был Казімеж Велькі! Розумеш?!..*

Дастойнік сярдзіты, вучыцелька нясьмела апраўдваецца:

— Галаварэзаўская вёска, *пане візытатожэ.*

Візытатар маўчыць, праз хвіліну зноў пытае:

— *А кеды был тшэці розбюр Польскі?..*

— У 1795 годзе! — кажаць запытанае дзіцятка адным духам.

— *Ладне,* — хваліць візытатар, — *сьмяло мое дзеці!* А *кто розэбрал втэды Польскэн?...*

— Зямлю — паны; што на зямле — паны, што пад зямлёй — паны; што на небе — папы, а нам нічога не засталося...

— *Мільч, погане!* — *кто цєнь научыл?* — гнеўна пытаецца дастойнік.

— Татка апавядаў пра паншчыну, дык я слухаў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Вось Вам прыклад, вось Вам абраз, якія нам обыватэлі растуць! Гэта скутак нашай толеранцыі. Даходзіць да таго, пане Куратар, што ўжо нават малыя дзеці... ах!

А думаеце, што гэта толькі адзінае здарэньне?..

Казалі мне нават гэтакую штуку, што ў Беларусаў ужо дзеці процідзяржаўна настроенымі родзяцца. Ледзь сьвет вось гэткае малое ўбачыць, ужо і крычыць:

— Мама, нажа дай, — рэзаці хачу!..

Дык вось што яно, калі сільнай рукі няма, нашто тагды толеранцыю заводзіць?

Прыкра!..

**Янка М.**

# МАЁЎКА

(*Успамін*).

Як маёўка у Варшаве
Загула мацней
Дык у Вільні ўсё рухавей
Стала — й весялей.

Песьню „Першае Брыгады"
Я пачуўшы раз,
„Не дарма, — падумаў, — рады
Усе у гэткі час"...

Пру „Цялятнікам" і бачу
На бальконе... што?
Грамаду людзей жабрачу
Павітаў во хто:

Гэнэрал наш найважнейшы,
Бо вайны герой...
Чуўся кліч людзей мацнейшы
Ад мінюты той.

„Дзеньнік Віленскі" — дадатак
Я бяру хутчэй,
Хачу ведаць на пачатак
Пра ўвесь ход падзей.

На Замковай тут у месьце —
Бачыце ці не —
Йдзе работнікаў мо' з дзьвесьце
Насустрэчу мне.

І гукаюць і сьпяваюць
Аб Пілсудскім зноў,
Што ў Варшаве праганяець
Вітаса далоў...

Аж паліцыя за ўсімі
Ззаду на канёх —
Хто-ж бы зьявамі такімі
Напужацца мог?..

Але-ж во: ужо разганяюць
Гэтых сьпевакоў,
У падворкі запіхаюць —
Страшна мне штыкоў.

„Што за дзіва, — разважаю:
Там — сам гэнэрал
Гэткіх самых во вітае,
А вось тут — скандал!"

Папярлі й мяне за браму,
Енчаць — а-я-ёй...
Хтось аблаяў маю маму,
Вечны ёй спакой.

Неспадзевана, — бажуся,
Не маніфэстант —
Разам з іншымі таўкуся,
Быццам арыштант.

Хтось стары, схіліў галоўку,
Стогне — баліць бок...
Пёр за горад на маёўку,
Уліп тут незнарок.

І ня ведаю, што далей
Тамака было-б,
Каб мяне не ўратавалі
Думкі й цэлы лоб.

У доме там ёсьць (носам чую)
Недзе рэстаран...
Шуг туды... Тут заначую,
Невялікі-ж пан.

З хворабокім загулялі —
Згінуў страх і гнеў
І маёўку мы спраўлялі
Пад „Брыгады" сьпеў.

**Звончык.**



Крапіва.

## Воўк і ягнюк.

(*Пановяму*).

Закон наш добры — няма слоў,
Казаў калісь нам дзед Крылоў,
Але вось толькі ў чым бяда —
Яго выконвае брыда.

---

„Удужага заўсёды слабы вінават.
Яно так ёсьць і далей будзе“ —
Даўней казалі гэтак людзі,
Але цяпер ваўкі ягнят
Ядуць нянавчай па дэкрэту *);
Вось нек было і ў гэта лета:
Траву за вёскай каля рэчкі

Шчапалі, ходзячы, авечкі,
А воўк стары ў лазе сядзеў,
Глядзеў,
Сачыў,
Разоў мо' пяць пералічыў,
Але чапаць баяўся ён,
Бо быў юрысты, знаў закон.

Вось тут якраз
На гэты час
Адзін баранчык малады,
Ня чуючы ліхой бяды,
Спусьціўся з берагу напіцца,
А воўк, як за патрэбай быццам,
З-за куста — шуг!
Баран жа з жаху ў воду — бух!
Ды стаў тапіцца.
І утапіўся-б бязумоўна,
Каб воўк ня выцягнуў за воўну.

— Дык ты тут ловіш рыбу незаконна,
Ня гледзячы на забарону? —
Крычыць сярдзіта хітры зьвер:
Што-ж мне з табой рабіць цяпер?

— Паночку воўк! — баран ў адказ —
Павер: дальбог я незнарок,
Даруй-жа мне на гэты раз,
А больш — даю зарок...

— Маўчы, шчанюк, з сваім зарокам, —
Сказаў воўк, злуючы нарокам:
Я за табой даўно сачыў —
Ты вось і скуру падмачыў,
Зрабіўшы шмат рэспубліцы урону.
А ведаеш, што па закону
Было-б табе за ўсё за гэта?
Паводле нашага дэкрэта,
Цябе-б адразу к высшай меры кары.

Але як ты ўжо пролетары,
Дык я прымушан так рашыць:
Ты тут павінен распрануцца
І скуру зараз прасушыць,
Каб ня згніла яна і воўна,
Слабоду-ж я даю табе... умоўна *).
Ня ўсьпеў баран тут аглянуцца,
Ратунку крыкнуць ці заплакаць,
Як воўк пачаў яго распратаць.

---

*) *Дэкрэт* — распараджэньне, наказ высшай ўлады.

*) *Даваць свабоду умоўна*, — зн. даваць толькі на паперы, абяцаць, але ня даць.

(*Паясьненьні Рэдакцыі*).

## На кірмашы.

Сялянка праз няўвагу наступіла жонцы камэнданта пастарунку на нагу.

— *Цо ты хамувка дэпчэш мне пантофле*, — гнеўна закрычала камэнданціха.

— А бадай вас ліха гэтых паноў! — адказала сялянка, — ў іх нават чаравікі панамі завуцца.

*Я. М.*

Яшчэ за часаў цара Мікалая І-га адзін поп вельмі стараўся, каб заслужыць ласку ў начальства, а дзеля таго рознымі хітрыкамі змушаў сялян-каталікоў пераходзіць на праваслаўе. У гэтым яму чынна памагаў царкоўны стараста — мясцовы абшарнік.

Начальства пазнаўшы іхнія „заслугі“ прадставіла к нагарадзе: папу — камілаўку старасьце — крыж Станіслава III ст. Але Сьвяцейшы Сынод перапутаў і ў паперах ад'значыў, што крыж — папу, камілаўку — старасьце.

Каб паправіць памылку Сыноду, поп і стараста падалі „усепадданейшую“ просьбу да цара.

Цар, аднак, адказаў, што Сьвяцейшы Сынод непамыльны, а ўжо данныя награды можа адабраць толькі суд пры адабраньні ўсіх правоў.

Вось і прыходзілася нашаму старасьце-абшарніку на ўсе ўрачыстыя парады надзяваць побач з сваею дваранскаю формаю яшчэ і камілаўку, чым заўсёды выклікаў зразумелы і нічым няўстрыманы сьмех.

**К. Сьвет...**

## І... „мы пахалі“...

**(Справаздача аб „беларускім“ мітынгу).**

30 га траўня, г. знач. толькі пазаўчора яшчэ, у Вільні замітынгавалі:
Легіяністыя.
Асаднікі.
Дворнікі.
Настаўнікі.
Стральцы
і г. д.

Адным словам — усё, што ёсьць тут левае і польскае.

Аблявела неяк таямніча і „Тымчасова Рада Бялоруска“...

І таксама абвясьціла мітынг —

У тэй самай салі Крэйнгеля, дзе яна калісьці на сьвет нарадзілася.

Іду. Ведаючы праўдзівы ўплыў на грамадзянства гэтай вечна-тымчасовай пасткі, расстаўленай для беларусаў збанкрутаваўшымі эндэцкімі ўладамі Польшчы, гадаю:

Што-ж гэта мае быць за мітынг такі?..

Аж гадаць доўга ня прыходзіцца.

На ваконечку касы чытаю, што ніякага мітынгу тут быць ня можа, бо... ёсьць мітынг у „Салі Мейскей“...

Ну, пэўна-ж, сьмешна выглядаў-бы мітынг, на які ніхто ня прыйшоў, навет ніводзін рэпортэр тутэйшай прэсы (калі ня лічыць мяне — маланачніка).

Ня мне-ж аднаму мітынгаваць з прэзэсам „Тымчасовэй“!

Далей чытаю, што мітынг „Тымчасовэй Рады“ „*саўпаў*“ (гэтае тымчасова-беларускае слоўца літаральна так і выпісана на абвестцы), значыцца — *саўпаў* — з мітынгам у „Салі Мейскей“, а дзеля гэтага ўсе заклікаюцца туды.

Дзеля таго, што ў салі гэтай я ўжо пабываў, але несьцярпеўшы страшэннае духаты і ня змогшы добра чуць аратара з фістулаватым фальцэцікам, пасьпяшыў выйсьці на вуліцу, каб дабрацца да Салі Крэйнгеля, дык назад у „Мейскую Салю“ ўжо не пайшоў.

А саля Крэйнгеля была ня толькі што пусьцюсенькая, а навет дзьверы да яе яшчэ на дольных сходах былі моцна зачынены на ключ.

Гэтак рэагавала беларускае грамадзянства на заклік „Тымчасовэй Рады“ зрабіць мітынг.

Мітынг гэты прайшоў гэтак ціха і спакойна, як ніводзін іншы нідзе на сьвеце.

**З—ык.**

# Заграні́чны гумар.



Бедны, бедны „дух Лёкарно“
Уцякае ва ўсе ногі,
Бо у мамы у Эўропы
Многа жаху і трывогі.

Чорны хмары над Эўропай,
Дзе ні глянеш, дзе ні пойдзеш.
Дзе-ж „анёлку“ супачынеш?
Дзе спакой нарэшце знойдзеш?!

(Нямецкая карыкат.)



Вось як выглядае новая эўропэйская роўнавага, або „Саюз бясьпечнасьці“, над якім уся Эўропа і Ліга Народаў ламае сабе галаву.

(Амстэрдам — Голяндыя).



Крычыць Францыя на сьвет цэлы:
— Гвалт! Ратуйце! У дзень белы
Немец зброіцца паціху, —
Быць відаць якомусь ліху!

А сама зброі болей пуда
Начапляла і, як Юда,
Яна „анёлка“ ўжо цалуе...
І у друзаў бомбы дуе!

(Нямецкая карыкат.)

## Новая партыя.

Кажуць, што ў сувязі з Варшаўскімі падзеямі, сярод польскай правіцы паўстала новая партыя „О. П. К.“ — гэта значыць: „Онуфры, пакуй куфры!“ (і ўцякай заграніцу).

Ад сябе дададзем:
— Як найхутчэй!

Я. М.

## І ён ня хоча...

— А ты, Мацей, ці хацеў-бы быць прэзыдэнтам?

— А ліха яго там: яшчэ заб'юць, альбо прагоняць. Найлепш у хаце — сядзі, ды маўчы.

Я. М.

## НАША ПОШТА.

Усіх паважаемых нашых падпісчыкаў „Маланкі“ паведамляем, што з прычыны настаўшай добрай пагоды некаторыя нашыя супрацоўнікі выехалі на летні адпачынак на лета на вёску, што змусіла нашу „Маланку“ выходзіць часова толькі раз на месяц. Але запэўняем, што гэта толькі часова і сабраўшыся на сілах хутка пачнём зноў выпускаць „Маланку“ нармальным парадкам. Усім паважаным падпісчыкам, якія прыслалі грошы, або прышлюць і не адтрымалі або не адтрымаюць усіх належачых нумароў прадоўжым падпіску на даўжэйшы час.

Заклікаем усіх дарагіх братоў беларусаў, якім ляжыць на сэрцы разьвіцьцё нашай ідэйна-гумарыстычнай часопісі, падтрымліваць матар'яльна наша выдавецтва прысылаючы нам падпіску і пашыраючы шырока „Маланку“ сярод вашых сваякоў і знаёмых.

### ПАВІНШАВАНЬНЕ.

Рэдакцыя „Маланкі“ на гэтым месяцы складвае нашгму супрацоўніку і маладому мастаку Ю. Ш...... свае сардэчнае павіншаваньне з прычыны шчасьлівага злажэньня ім матуральных экзамэнаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі.

Мы верым, што распачатая Вамі праца для дабра нашай дарагой Беларусі, будзе заўсёды сьвяціць Вам, як пуцяводная зорка, і дасьць Вам сілу і радасьць жыцьцёвую у штодзенным і цяжкім змаганьні.

Рэдактар-выдавец М. Луцэвіч. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня